# Астраўчанін – аўтар першага японска-рускага слоўніка

*У цэнтры Астраўца стаіць бюст Іосіфа Гашкевіча– першага консула Расіі ў Японіі, памешчыка, пісьменніка, краязнаўцы, які жыў і працаваў у мінулым стагоддзі.*

Міжнародны фонд імя Іосіфа Гашкевіча мае астравецкую прапіску. А пачалося з таго, што дырэктар нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны Адам Мальдзіс, загадчыца астравецкага райаддзела культуры Данута Чарнушэвіч, старшыня калгаса "Чырвоны кастрычнік" Часлаў Рынкевіч вырашылі ўшанаваць памяць земляка– устанавіць бюст. Прадпрымальнікі далі грошы, хто колькі мог. На адкрыццё з'ехалася інтэлігенцыя Расіі, Беларусі, прыехалі японцы. Тады і ўзнікла думка стварыць фонд Гашкевіча, каб аб'яднаць намаганні людзей дзеля грамадскага, культурнага, экалагічнага супрацоўніцтва. І шлях да гэтага– цікавая, карысная работа па ўвекавечанню памяці былога жыхара і гаспадара маёнтка Малі.

Плануецца перавыдаць яго работы, пабудаваць бібліятэку, музей. Ужо сёння беларуская фірма "Сэкай" можа прафінансаваць перавыданне твораў. Японцы прапануюць матэрыяльную дапамогу. Не застануцца ў баку і астраўчане. Хоча ўступіць у фонд інтэлігенцыя Літвы і Польшчы. Міжнародны фонд з прапіскай ў Астраўцы дзейнічае дзякуючы намаганням яго старшыні Дануты Чарнушэвіч. У Мінску праведзена вечарына, прысвечаная Іосіфу Гашкевічу. Мінчан вітаў ансамбль народнай песні "Світанак" калгаса імя Чапаева з Астравеччыны. Калгаснікі выступалі так, што людзі ў зале плакалі. І ўсміхаліся, калі па-беларуску гаварыў японскі студэнт.

Восем гадоў у сваім маёнтку пражыў аўтар першага японска-рускага слоўніка. На жаль, у вёсцы Малі не захавалася яго сядзіба. Пахаваны ён на могілках Рось у Вільні.

*Васіль САВІЦКІ.*

## У чэмпіёны?

***МАЛАДЗЕЧНА. Міжраёным аддзяленнем энерганагляду за люты і першую палову сакавіка праверана больш за 300 бытавых спажыўцоў на Маладзечаншчыне і больш за 250 на Валожыншчыне. Кожны чацверты аказаўся парушальнікам. Сума штрафаў перавысіла 100 мільёнаў рублёў.***

Па словах начальніка аддзялення В. Цара, такія сумы штрафаў тлумачацца тым, што больш за 2 гады існуюць тарыфы на электраэнергію, якая выкарыстоўваецца для ацяплення і гарачага водазабеспячэння. У цяперашні час гэтыя тарыфы большыя, чым на асвятленне. Дзённы– 1922 рублі за 1 кВТг, начны– 384 руб. за кВТг.

У выніку рэйда "чэмпіёнамі" па колькасці парушальнікаў на Маладзечаншчыне сталі Цюрлі, Відзеўшчына, Радашковічы, Заскавічы, на Валожыншчыне– Сакаўшчына, Пяршаі, Выганічы.

*Святлана КЛІМОВІЧ.*

# Міласэрнасць

*Даруйце мне, Вольга Мікалаеўна, але я хачу, каб на магіле вашага сына стаяў помнік.*

Чаму Бог, калі ён ёсць, дзеліць так несправядліва: адным здароўе і багацце, іншым гора і беднасць. Вольга Мікалаеўна Казлова, інвалід з дзяцінства, летам пахавала сына Андрэя.

Немагчыма ўявіць, як яна са сваім здароўем адстойвала змену ў былым магазіне "Спорттавары". Сын павінен быў забяспечыць маці старасць. Усё складвалася ўдала. Андрэй з маленства дапамагаў па дому. Рана пайшоў працаваць, каб маці стала хатняй гаспадыняй.

У яго было адно жыццё з моцнымі, нязменнымі пачуццямі любві да маці, людзей, музыкі. За трунай ішла моладзь: былыя аднакласнікі, суседзі, музыканты. Яны пахавалі сябра па-хрысціянску.

У Андрэя засталася сям'я. Шкада маленькага хлопчыка, які ў будучым можа і не знайсці магілу таты. Ці можа сёння пакрыўджаная лёсам адзінокая састарэлая жанчына заказаць помнік сыну? Суседзі, сяброўкі маюць вялікія сэрцы і тонкія кашалькі. Следства па выпадку, калі пад машынай загінуў Андрэй, яшчэ працягваецца і аб матэрыяльнай кампенсацыі пытанне пакуль не паўстае. А дапамагчы, не чакаючы рашэння суда, сумлення ў аўтаамататара не хапае.

Нас усіх будуць любіць і помніць за добрыя ўчынкі. Дапамажыце адзінокай хворай жанчыне захаваць памяць аб сыне не толькі ў мацярынскім сэрцы, але і на зямлі.

Вольга Мікалаеўна Казлова жыве ў Маладзечне. Адрас у рэдакцыі.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Не споўнілася і 30

***СМАРГОНЬ. Краіну ўскалыхнула вестка аб нядаўняй трагічнай падзеі ў гэтым горадзе.***

Пры спробе затрымання рабаўніка загінуў работнік упраўлення "Смаргоньміжрайгаз" Станіслаў Кажарновіч. Мужнаму чалавеку не споўнілася і 30. Адзінага сына страціла маці, удавой стала маладая жанчына, без бацькі засталіся дзеці– 4 і 1 года.

Сям'і Станіслава выдзелена трохпакаёвая кватэра, у гарвыканком унесена прапанова аб наданні адной з гарадскіх вуліц імя С. Кажарновіча.

Жорсткі і недарэчны выпадак адбыўся па віне ўзброенага гастралёра з Расіі. Смаргонская раённая газета "Светлы шлях" адзначае, што "усялякая нечысць наплывае ў нашу Беларусь з усходу, ад "празрыстых граніц" з Расіяй".

***Аддзел інфармацыі.***

# 22 гады ў чарзе на жыллё

***Калі грошай больш чым дастаткова, едуць на пастаяннае месца жыхарства ў краіны далёкага замежжа. А калі ні грошай, ні жылля? Настаўнік з Маладзечна апынуўся ў такім становішчы. Я прапанаваў яму ехаць бліжэй да родных– у Валожынскі раён ці на Астравеччыну. Але, здаецца, яго там не чакаюць.***

**Валожын.** Апошні дзяржаўны дом здадзены ў эксплуатацыю ў 91-м годзе, кааператыўны– у 95-м. У горадзе будуюцца два шматпавярховыя дамы на сорак дзве кватэры кожны. Сёння з-з адсутнасці сродкаў будаўніцтва спынена. У чарзе на жыллё 273 чалавекі, з іх 70 ільготнікаў. Ніна Іванаўна Пятровіч, гараджанка, стаіць на чарзе 22 гады.

**Астравец.** Апошні раз у 94-м годзе жыхары засялялі дзяржаўны і кааператыўны дамы. Чарга на жыллё складае 163 чалавекі– на дзяржаўнае, 193– на кааператыўнае. Што і дзе будуецца, так і не даведаліся. Стала вядома– на дзяржаўнае жыллё стаяць да 12 гадоў. Каб атрымаць кааператыўнае– да 10 гадоў.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Эканоміка і злачыннасць

# Баранаў супраць Баранава

***МАЛАДЗЕЧНА. Тры гады таму тут створаны аддзел падатковых расследаванняў. Узначальвае яго Валерый Баранаў. Разам з сямю інспектарамі АПР яны з'яўляюцца супрацоўнікамі міліцыі, прыкамандзіраванымі да Дзяржаўнай падатковай інспекцыі.***

За першы квартал бягучага года міжраённы аддзел падатковых расследаванняў выкрыў 93 факты парушэнняў. На іх падставе 68 суб'ектаў прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці. Супраць 10-ці ўзбуджаны крымінальная справы. Па 4-х злачынствах адмоўлена ў справе з-за адсутнасці карысці. Справы парушальнікаў перададзены на рэагаванне грамадскасці.

У ліку крымінальных злачынстваў цяпер разглядаецца справа па дзейнасці МП "Баранаў". Сваяцкіх адносінаў паміж парушальнікам падатковага заканадаўства і кіраўніком АПР няма.

МП "Баранаў" і яго фірмы-партнёры, таксама зарэгістраваныя ў Маладзечне, набралі крэдытаў на сотні мільёнаў рублёў у банках Ашмянаў, Смаргоні, Маладзечна. Выкарыстоўвалі іх не па непасрэднаму прызначэнню, пераганялі грошы з рахункаў адной фірмы на другую. У выніку ўтоена падатку на дабаўлены кошт звыш 500 млн. руб.

Злачынства вельмі рапаўсюджанае сёння. Калі верыць рэспубліканскай прэсе, надзеленыя ўладай за падобныя парушэнні не заўсёды прыцягваюцца да адказнасці. Тым не менш, Аляксандр Баранаў арыштаваны. Яму інкрымініруецца таксама вымантачванне крэдытаў. Маёмасць плацельшчыка па крэдытных абавязках апісаная.

У адносінах да службовых асоб фірмы "Давол" (зарэгістраваная ў Маладзечне, дзейнічае ў Мінску) узбуджана крымінальная справа. Інспектарам цяжка кантраляваць у такіх выпадках камерцыйную дзейнасць. Асабліва, калі здзелкі ідуць па-за межамі краіны. Аднак інспектарамі АПР выкрыта, што "Давол" не пералічыў у бюджэт звыш 4 млрд. руб. Падатак утоены на здзелках пры гандлю вэксалямі, пры іншых камерцыйных аперацыях з расійскай фірмай "Росарм". Адсачыць дзейнасць з расійскімі камерсантамі нават для праваахоўных органаў праблематычна. Іх запыты застаюцца без адказаў.

Толькі за бягучы год дзякуючы дзейнасці АПР на падставе выкрытых парушэнняў даналічана ў бюджэт 9 млрд. руб. З іх фактычна заплачаныя каля 200 млн. руб. Сачыць за пакрыццём запазычанасці бюджэту– таксама абавязак АПР. Цяжкасць у тым, што парушальнікі на момант выкрыцця злачынства не маюць на сваім рахунку грошай і матэрыяльных каштоўнасцяў. Спрабуюць самаліквідавацца, каб не плаціць запазыку. Гэтак узнікае нядоімка бюджэту, якая павялічваецца з года ў год.

*Святлана САРОКА.*

## Прагнасць фраера згубіць

***Паміж Маладзечнам і Мінскам стаіць гарадскі пасёлак Радашковічы. На адным з яго прадпрыемстваў адбылося цікавае здарэнне.***

Начальніку цэха прыглянуўся трактар Т-25. Малады сталёвы конь (700 мотагадзін прабегу) зламаўся, і тут кіраўнік першы падставіў сваё плячо, дакладней руку: трактар спісвае на металалом. І адначасова ў сваім цэху рамантуе яго, рыхтуе не ў брак, а быццам да шлюбу. І вось салодкая парачка разам. Металалом не толькі едзе сам за прахадную, але, здаецца, зіхаціць новай фарбай.

## Самыя хітрыя людзі на свеце

***Дырэктар прадпрыемства і адначасова заснавальнік васьмі фірмаў на працягу года ў розных банках рэспублікі (Мінскай, Брэсцкай, Гродзенскай абласцей) узяў крэдыты на дзесяць мільярдаў рублёў.***

Яго калега, дырэктар дзяржпрадпрыемства, быў больш сціплым. У Знешэканомбанку ўзяў крэдыт на адзін мільярд. Не за вытворчасць, рабочыя месцы клапаціўся дырэктар, а аб сваёй асабістай кішэні.

За першы квартал бягучага года адзінаццаць прадаўцоў прыцягнуты за зман пакупнікоў да крымінальнай адказнасці.

## Даверлівасць мая– вораг мой

***Прадпрымальнікаў дурацъ усе, каму хочацца. У фірму "Юнона" спецыяльна завіталі багатыя пакупнікі ў выглядзе прыгажунь. Заключылі дагавор на пастаўку швейных вырабаў. Паабяцалі адразу пералічыць грошы. Адгрузілі прадукцыю на 47 мільёнаў і... зніклі.***

Бясплатна адгрузіла мясных вырабаў Заслаўская фірма "Антанопаль" на 40 мільёнаў. Бязвыплатна дапамог "расіянам" харчкамбінат– дзве фуры пайшлі ў невядомым напрамку. Мэблевая фабрыка аддае мэблю. Так і хочацца заклікаць– калі ў вас няма грошай– прыязджайце ў Маладзечна.

## Эпілог

Тыя, хто парушыў закон, абавязкова будуць адказваць, нягледзячы на тое, якія формы ўласнасці яны прадстаўляюць. Тавар, з якім рассталіся, назад ужо не вернецца. І грошы, якія абяцалі, так і застануцца абяцанкай. Добра, калі ёсць з каго іх спагнаць.

*Васіль САВІЦКІ.*

## "Дзеці–наша старасць"

# Наша будучае гора?

***МАЛАДЗЕЧНА. Сацыяльна-псіхалагічны цэнтр правёў даследаванне сярод 355 навучэнцаў ПТВ. На пытанне– ці ёсць сярод тваіх сяброў тыя, хто:***

–ужываюць гарэлку– станоўча адказалі 81,4 працэнта;

–займаюцца вымагальніцтвам– 14 працэнтаў;

–парушаюць закон– 27 працэнтаў;

–вядуць неахайнае палавое жыццё– 24,7 працэнта.

Толькі 19,4 працэнта навучэнцаў праводзяць свой вольны час з карысцю для сябе і акружаючых. Астатнія падлеткі збіраюцца ў падвалах, адкуль адзін крок да бяды. Па дадзеных маладзечанскага скурвендыспансера, з дыягназам "сіфіліс" зарэгістраваны за мінулы год і першы квартал бягучага 391 хворы. Вельмі высокі працэнт непаўналетніх.

"Дрэннае выхаванне– гэта наша будучае гора, наша віна перад іншымі людзьмі"

*Міхаіл УЛАДЗІМІРАЎ.*

# Каманда хоча на личение

***Люди, помогите собрать деньги на личение ребёнка. Порок сердца!– крычыць кардонны плакацік у руках заплаканай жанчыны са скруткам коўдры на руках у падземным пераходзе праз праспект Скарыны ў Мінску. Той-сёй спыняецца, рука цягнецца да кішэні.***

Прайшоўшы пераход наскрозь, ля выхада бачу ўбогую з падобным плакацікам:

–Люди пожалуста помогите больному от белокровья.

Становіцца цікава. Газетчык усё ж. На адным з выхадаў у руках хлопчыка на такой самай кардонцы слова ў слова першы плакацік. Тая самая рука. Тое самае «личение».

Колькі выхадаў мае гэты пераход? Шэсць? Па тры з кожнага боку праспекта. Шэсць крыкаў аб чыімсьці болю. Амаль аднолькавыя тэксты, аднолькавы кардон, адзін почырк.

Праз дзве гадзіны, вяртаючыся, бачу тыя ж самыя плакацікі ў тых самых руках. Толькі адно– адбылася ракіроўка. Хлопчык– на месцы маладзіцы, маладзіца– на месцы... Думкі перабіў міліцыянер, які за рукаў цягнуў бабулю. Відаць, цыгарэтамі прытаргоўвала.

Праз колькі часу жабракоў у пераходзе не было. Каманда памяняла месца дыслакацыі. Хутчэй за ўсё.

*Мікола ГАЙДУК.*

# У бездань штурхаюць дарослыя сваіх дзяцей

***МАЛАДЗЕЧНА. На працягу года былыя вучаніцы СШ №4– 11-13-гадовыя сяброўкі на прафесійным узроўні лазілі ў кішэні пасажыраў гарадскіх аўтобусаў і шчодра дзяліліся з бацькамі. Цяпер дзеці вучацца ў спецыялізаванай школе, а бацькі пазбаўлены бацькоўскіх правоў.***

У жыхаркі вёскі Аляхновічы пяцёра дзяцей. Старэйшы, пятнаццацігадовы сын пазбаўлены волі на чатыры гады, малодшая на год за яго сястрычка асуджана ўмоўна. Маці была задаволеная, як старэйшыя падтрымлівалі сям'ю. А як цягнулі ўсё, што блага ляжыць, дык хай суседзі хаваюць лепш.

Бацька з чатырнаццацігадовым сынам выпілі разам бутэльку гарэлкі і зрабілі налёт на кватэру па вуліцы Ф. Скарыны. Адабралі паўтара мільёны рублёў, асабістыя рэчы.

*Міхаіл УЛАДЗІМІРАЎ.*

